



# Рэгіянальная газета

19 красавіка 2013 года
№ 16 (938)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Змяняецца рух ад станцый Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае да станцыі Маладзечна 24 красавіка.
3-я старонка



Расплата за забойства маладзечанцу прыйшла праз 15 гадоў.
4-я старонка



**навіны рэгёна**



## "Тыдзень лесу" пройдзе ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ.** У суботу, 20 красавіка, у Смаргоні пройдзе акцыя "Тыдзень лесу-2013". Яна прымеркаваная да 130-годдзя мяча Колесава – спецыяльнай прылады для пасадкі лесу. Акрамя таго, акцыя пройдзе ў падтрымку мерапрыемстваў года беражлівасці. Усе ахвотныя змогуць дапамагчы лясной гаспадарцы пасадзіць дрэўцы, зрабіць цікавыя стэнды і вывескі ў месцах, якія з'яўляюцца экалагічнай каштоўнасцю. З-за дрэннага надвор'я правядзенне акцыі прадоўжылі да пачатку мая. Як паведаміў намеснік начальніка па ідэалагічнай рабоце Смаргонскай лясной гаспадаркі **Андрэй Пятроўскі**, ахвотных ужоназбіралася каля 500 чалавек. Гэта і дзеці, і дарослыя.

## У Вілейцы лектар з Тувы раскажа пра традыцыйную культуру свайго народа

**ВІЛЕЙКА.** У выставачнай зале імя Сіліновіча краязнаўчага музея 21 красавіка пройдзе лекцыя-дэманстрацыя "Традыцыйная культура тувінцаў". Навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей** паведаміла, што наведнікаў чакае расказ пра сібірскія звычаі і абрады, побыт і жыллё, адзенне і ўпрыгажэнні, каляндарныя святы і адмысловыя дні, традыцыйную рэлігію і вераванні, музычны фальклор тувінцаў. Правядзе лекцыю спецыяліст Цэнтра культуры Авюрскага кажууна Рэспублікі Тува **Чадураа Цюлюш**, якая на працягу многіх гадоў збірае, вывучае і беражліва захоўвае побыт, традыцыі і культуру свайго народа. Пачнецца лекцыя а 14 гадзіне. Уваход вольны.

## Пройдзе сустрэча з галоўным трэнерам і дырэктарам ФК "Маладзечна"

**МАЛАДЗЕЧНА.** У гэтую пятніцу, 19 красавіка, у 18 гадзін на гарадскім стадыёне пройдзе сустрэча балельшчыкаў і ўсіх ахвотных з галоўным трэнерам і дырэктарам ФК "Маладзечна". На сустрэчы можна будзе задаць пытанні, на якія раней па нейкіх прычынах яны адказаць не маглі. Можна будзе і набыць абанементы на гэты сезон і такім чынам дапамагчы маладзечанскаму футболу.

**Аддзел інфармацыі.**

# У рэгіёне пачалі адключаць цяпло



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Дыспетчар раёна цеплавых сетак Аляксандр Пабыванец паказвае на схеме дыспетчарскага пункта, як праходзіць адключэнне цяпла ў Маладзечне. Гарэнне чырвонай лямпачкі азначае, што падача цяпла ў гэтым месцы спыненая. Калі і дзе адключаюць цяпло ў нашым рэгіёне сёлета, чытайце на 2-й старонцы.**

УШАНАВАННЕ

# У “Шталагу” ўвекавечылі яшчэ 250 імёнаў



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Цяпер родныя 250-і вязняў з розных краін будуць ведаць, дзе можна ўшанаваць памяць сваіх продкаў.

**МАЛАДЗЕЧНА. У Дзень вызвалення вязняў канцлагераў, які адзначаюць ва ўсім свеце 11 красавіка, памятны мітынг-рэквіем прайшоў ля мемарыяла “Шталаг-342”.**

Актыўны ўдзел у мерапрыемстве прынялі ўдзельнікі клуба “Пошук”, які працуе ў маладзечанскай СШ №5. У гэты дзень клуб прымаў родных вязняў, пахаваных на тэрыторыі шталагу. Некаторыя з іх прыехалі з Расіі – з Варонежа, Масквы, Уфы, Цверы.

Госці з Масквы прыехалі ў Маладзечна ўжо не першы раз. Сёлета яны прывезлі з Расіі зямлю, каб пакласці яе на месца пахавання свайго бацькі.

Удзельнікі клуба “Пошук” падчас мітынгу чыталі вершы і расказвалі пра сваю працу ў клубе. Сярод іх не толькі школьнікі, але і сталыя людзі, многія з якіх самі былі малалетнімі вязнямі. Цяпер яны дапамагаюць адшукаць сваякоў тых, хто страціў родных у канцлагерах.

У гэты дзень некаторыя з іх атрымалі падзяку ад райвыканкама за актыўную пошукавую дзейнасць і патрыятычнае выхаванне. Уганаравалі **Валянціну Нігуру**, **Тамару Бычок**, **Галіну Жыгальскую**, **Лідзію Грачанік**, **Маю Савіцкую** і **Тамару Пліско**.

Сёлета ў “Шталагу” адкрылі 10 новых мемарыяльных дошак. На іх нанесеныя імёны 250-і вязняў, якія тут пахаваныя. Кожнае з прозвішчаў – вынік карпатлівай працы клуба “Пошук”. Падрыхтоўка дошак зацягнулася на некалькі гадоў. Сваякі падыходзілі да іх, знаходзілі імя родных і ўздыхалі з палёгкай. Ля дошак з імёнамі пакідалі кветкі, гаворачы, што ёсць дзе належна памянуць загінулых.

Пасля ўскладання кветак госці з Расіі сустрэліся з удзельнікамі клуба, а таксама яго кіраўніцай **Лідзіяй Князевай** у школе.

Падрабязней пра гісторыю пошуку новых імёнаў вязняў чытайце ў нумары за 10 мая.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# У рэгіёне пачалі адключаць цяпло

**МАЛАДЗЕЧНА. СМАРГОНЬ. АСТРАВЕЦ. ВІЛЕЙКА. Цяпло сёлета адключаюць пазней, чым звычайна, з-за надта доўгай зімы.**

## Смаргонь перайшла на рэжым ацяплення

Як паведаміла начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Смаргонскага райвыканкама **Алена Атцецкая,** праз пару дзён Смаргонь пяройдзе на рэжым ацяплення.

Цяпло ідзе не кругласутачна і не на поўную моц. Напрыклад, ўключаецца толькі на ноч ці на дзень.

– Але хвалявацца не трэба, – кажа спадарыня Алена. – Гэты рэжым дазваляе захоўваць 18-градусную тэмпературу ў памяшканні, каб людзям было камфортна жыць.

## У Маладзечне адключылі адміністрацыйныя будынкі

– Ад серады, 17 красавіка, пачынаем адключаць цяпло ў адміністрацыйных будынах і прамысловых прадпрыемствах, – кажа намеснік начальніка Маладзечанскіх электрасетак па цеплаэнергіі **Леанід Кузняцоў. –** Пакуль у Маладзечне сярэднясутачная тэмпература не дасягнула 8 градусаў цяпла, таму жыллё яшчэ будзе ацяпляцца. Згодна з новымі правіламі, якія прынялі летась, спыненне падачы цяпла трэба чакаць тады, калі сярэднясутачная тэмпература на дварэ на працягу трох дзён будзе трымацца плюс 8 градусаў. Раней працягласць гэтага перыяду складала пяць дзён.

Дзіцячыя садкі і школы пачнуць адключаць пазней, калі тэмпература паветра будзе плюс 10 градусаў вышэй за нуль.

Адключэнне будзе праходзіць паступова. Спачатку цяпла не стане на прамысловых прадпрыемствах, у адміністрацыйных будынках, затым – у жылым сектары і ў апошнюю чаргу – у дзіцячых дашкольных установах, школах, бальніцах, музеях, бібліятэках.

Цяпер сярэднясутачная тэмпература складае плюс 3-5 градусаў цяпла.

## У суботу пачалі адключаць цяпло ў Астраўцы

Як расказаў нашаму выданню галоўны інжынер Астравецкай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Дзмітры Аксёнін,** у суботу, 13 красавіка, пачалі адключаць цяпло ў адміністрацыйных будынках.

## У Вілейцы адключаюць па заяўках

– На сераду масавага адключэння цяпла няма. Сярэднясутачная тэмпература на дварэ плюс 8 градусаў яшчэ не трымалася тры дні запар. Па заяўках адключаем адміністрацыйныя і вытворчыя будынкі прадпрыемстваў і арганізацый, – паведаміў галоўны інжынер Вілейскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Валянцін Сусла**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ, Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАМЯЦЬ

# Пайшла з жыцця педагог Алена Посах

**Пасля доўгай хваробы пайшла з жыцця цудоўны педагог Алена Васілеўна Посах.**



Нарадзілася яна ў 1941 годзе ў сялянскай сям'і, належала да вялікай дынастыі настаўнікаў.

Пасля заканчэння Лебедзеўскай сярэдняй школы паступіла ў Магілёўскі педагагічны інстытут на фізіка-матэматычны факультэт.

Першыя крокі ў якасці настаўніцы зрабіла ў Хоўхлаўскай сярэдняй школе. Там жа выйшла замуж, нарадзіла дзвюх дочак – Святлану і Ірыну. Пасля васьмі гадоў працы перавялася ў Лебедзеўскую сярэднюю школу. Вельмі любіла свой прадмет, вучняў, вызначалася працавітасцю.

Матэматыка – складаны прадмет, але яна любіла яе, старалася праводзіць шмат дадатковых заняткаў, пазакласную работу. У дасканаласці валодала методыкай выкладання. Добра ведала праграму не толькі сярэдняй школы, але і ВНУ. Шмат каму са студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў рабіла курсавыя работы па вышэйшай матэматыцы.

Не выпадкова выпускнікі школы заканчвалі фізіка-матэматычныя факультэты і працуюць настаўнікамі матэматыкі ў школах горада і раёна. Да кожнага вучня яна мела свой падыход, што дапамагала ў рабоце класнага кіраўніка.

У мінулым годзе на юбілейным вечары сустрэчы выпускнікі Алены Васілеўны з вялікай удзячнасцю ўспаміналі сваю другую маму.

Шмат увагі ўдзяляла яна выхаванню любові да бацькаўшчыны. Падчас школьных канікулаў вучні пабывалі ў турпаходах, паездках па гістарычных мясцінах Беларусі.

Яе дачка таксама стала настаўніцай – працуе ў пачатковай школе ў Чысці.

Па сямейных абставінах ёй давялося апошнія 10 гадоў працаваць у старэйшых класах Маркаўскай сярэдняй школы. І тут яна праявіла самыя лепшыя рысы свайго характару: брала самыя цяжкія класы і давала добрыя веды па матэматыцы. Доказ таму – паступленні вучняў у ВНУ.

У апошні шлях Алену Васілеўну прыйшлі праведаць яе выпускнікі, яны ж аказалі дапамогу і ў арганізацыі пахавання. Вялікі дзякуй **Аляксандру Сароку** і **Анжаліцы Валер'еўне, Людміле Радзько, Дзмітрыю Шарайчыку** і іншым. Яны помняць і смуткуюць з прычыны смерці сваёй настаўніцы. А гэта найлепшая ўзнагарода.

**Марыя Сяргееўна Глод, Анатаніна Паўлаўна Раманоўская, Ніна Данілаўна Сізова, Марыя Грыгор'еўна Семашкевіч, Клаўдзія Трафімаўна Шульгіна, Таццяна Мікалаеўна Бычкевіч, Валеры Паўлавіч Качаргін і іншыя.**

ПАЗАШКОЛЬНАЯ РАБОТА

# Упершыню спаборнічалі маленькія інтэлектуалы

**МЯДЗЕЛ. Упершыню ў раёне прайшоў чэмпіянат па інтэлектуальных гульнях сярод малодшых школьнікаў. Адбыўся ён 13 красавіка на базе сярэдняй школы №1. Удзельнічалі 10 камандаў, у складзе якіх былі вучні трэціх-чацвертых класаў.**

У чэмпіянаце было тры гульні: “МедыяАзбука”, “Музычная карусель”, “Што? Дзе? Калі?”. Заданні былі адаптаваныя пад узрост удзельнікаў.

Па выніках усіх гульняў першае агульнакаманднае месца заняла каманда з сярэдняй школы №2 Мядзела “Дзьмухавец”.

**Аддзел інфармацыі.**

ГАСПАДАРКА

# Кармоў кароўкам хопіць

**МЯДЗЕЛ. Сёлетняя вясна, як ніколі ў апошнія гады, запазнілася. У рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" затурбаваліся, як там кароўкі. Ці хопіць ім кармоў да першай травы?**



Фота Ігара МАРОЗА.

Сёлета зялёныя кармы з'явяцца пазней, чым звычайна.

Ва ўпраўленні райсельгасхарчу запэўнілі, што кармоў у Мядзельскім раёне хопіць. У двух таварыствах сваіх травяністых кармоў нестае. Але ім сенажом і сіласам дапамагаюць суседнія гаспадаркі.

Гэтае ж пытанне адрасаваў дырэктару таварыства "Будслаўскае" **Івану Пятроўскаму**.

– У нас хопіць. Як звычайна, закладвалі кармы з запасам. Так што і гэта працяглая зімоўка не паўплывае на рацыён рагуль. Мы яшчэ і іншым гаспадаркам дапамагаем: напрыклад, таварыству "Габы-агра".

А як справы ў прыватнікаў? Сям'я Стаскойць з вёскі Камарова трымае чатырох кароў.

– **Ці хапае кармоў**? – спытаў у **Ганны Стаскойць**.

– Хапае. Гаспадар у мяне рупны, кожны год стараецца нарыхтаваць столькі сена, каб з запасам было. Бо заўсёды трэба разлічваць, што, можа, зіма зацягнецца – вось як сёлета здарылася. Звычайна 9 мая наша вёска кароў на выган адпраўляла. А гэтай вясной, можа, і пазней давядзецца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## Паважаныя пасажыры!

**Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі інфармуе**

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на перагоне **КУРАНЕЦ-ВІЛЕЙКА 24 красавіка 2013 года** скрасны рух цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа ад станцый Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае да станцыі Маладзечна **ад 4 гадзін 50 хвілін да 23 гадзін 20 хвілін здзяйсняцца не будзе.**

Цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа адпраўленнем са станцыі Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае будуць ісці да прыпынку "Куранец" і назад. Цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа адпраўленнем са станцыі Маладзечна будуць ісці да станцыі Вілейка.

Перавозка пасажыраў паміж прыпыначным пунктам "Куранец" і станцыяй Вілейка будзе здзяйсняцца аўтобусам па чыгуначных білетах.

### Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа (на перыяд рамонтных работ 24 красавіка 2013)

| Адпраўленне са станцыі Глыбокае | Прыбыццё на прыпыначны пункт "Куранец" | Адпраўленне са станцыі Вілейка | Прыбыццё на станцыю Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 4.00 | 6.15 | 6.40 | 7.12 |

| Адпраўленне са станцыі Полацк | Прыбыццё на прыпыначны пункт "Куранец" | Адпраўленне са станцыі Вілейка | Прыбыццё на станцыю Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 15.35 | 18.56 | 19.28 | 20.01 |

| Адпраўленне са станцыі Маладзечна | Прыбыццё на станцыю Вілейка | Адпраўленне з прыпыначнага пункта "Куранец" | Прыбыццё на станцыю Полацк |
|---|---|---|---|
| 8.34 | 9.05 | 9.30 | 12.53 |

| Адпраўленне са станцыі Маладзечна | Прыбыццё на станцыю Вілейка | Адпраўленне з прыпыначнага пункта "Куранец" | Прыбыццё на станцыю Глыбокае |
|---|---|---|---|
| 20.34 | 21.08 | 21.33 | 23.41 |

### Расклад руху аўтобуса на 24 красавіка

Просім вас улічыць, што працягласць паездкі ў гэты дзень павялічыцца.

Ідуць па змененым раскладзе цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

| Куранец-Вілейка | | Вілейка-Куранец | |
|---|---|---|---|
| Адпраўленне з прыпыначнага пункта "Куранец" | Прыбыццё на станцыю Вілейка | Адпраўленне са станцыі Вілейка | Прыбыццё на прыпыначны пункт "Куранец" |
| 6.20 | 6.35 | 9.10 | 9.25 |
| 19.05 | 19.20 | 21.13 | 21.28 |



Тэлефон для даведак: **105, 8(0176) 74-24-23.**

### №6626 Куранец-Полацк

| Прыпынак | Час адпраўлення |
|---|---|
| Куранец | 9.30 |
| Страж | 9.40 |
| Нїукі | 9.46 |
| Княгінін | 9.52 |
| Крывічы | 10.04 |
| Будслаў | 10.16 |
| Ілава | 10.22 |
| Варанцы | 10.27 |
| Параф'янаў | 10.36 |
| Парплішча | 10.46 |
| Валодзькі | 10.52 |
| Крулеўшчына | 10.02 |
| Шыпы | 11.11 |
| Замошша | 11.16 |
| Падсвілле | 11.27 |
| Баравое | 11.37 |
| Зябкі | 11.46 |
| Палевачы | 11.53 |
| Кульган | 12.01 |
| Загацце | 12.11 |
| Ветрына | 12.22 |
| Фарынава | 12.31 |
| Ксты | 12.42 |
| Полацк | 12.53 |

### №6623 Полацк-Паставы

| Прыпынак | Час адпраўлення |
|---|---|
| Крулеўшчына | 11.10 |
| Журкі | 11.22 |
| Глыбокае | 11.32 |
| Шарабаі | 11.40 |
| Канстанцінаў Двор | 11.48 |
| Верацеі | 11.55 |
| Навадруцк | 12.00 |
| Ляхаўшчына | 12.06 |
| Чорнае | 12.12 |
| Варапаева | 12.22 |
| Жафарава | 12.32 |
| Навасёлкі | 12.39 |
| Паставы | 12.52 |

### №6630/6629 Куранец-Крулеўшчына-Глыбокае

| Прыпынак | Час адпраўлення |
|---|---|
| Куранец | 21.33 |
| Страж | 21.42 |
| Нїукі | 21.48 |
| Княгінін | 21.56 |
| Крывічы | 22.07 |
| Будслаў | 22.17 |
| Ілава | 22.24 |
| Варанцы | 22.30 |
| Параф'янаў | 22-39 |
| Порплішча | 22.49 |
| Валодзькі | 22.56 |
| Крулеўшчына | 23.19 |
| Журкі | 23.31 |
| Глыбокае | 23.41 |



Прадугледжаная перасадка пасажыраў на станцыі Маладзечна з цягніка 6677 Вілейка-Маладзечна на цягнік 6144 Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна у 20.28.

| Прыпынак | Час адпраўлення | |
|---|---|---|
| | №6673 Вілейка-Маладзечна | №6677 Вілейка-Маладзечна |
| Вілейка | 6.40 | 19.28 |
| Зеніт | 6.51 | 19.39 |
| Чырвоны Беражок | 6.55 | 19.43 |
| Даманоўскі | 7.01 | 19.49 |
| Тышкевічы | 7.05 | 19.52 |
| Маладзечна | 7.12 | 20.01 |

| Прыпынак | Час адпраўлення | |
|---|---|---|
| | №6674 Маладзечна-Вілейка | №6678 Маладзечна-Вілейка |
| Маладзечна | 8.34 | 20.34 |
| Тышкевічы | 8.42 | 20.44 |
| Даманоўскі | 8.45 | 20.48 |
| Чырвоны Беражок | 8.51 | 20.54 |
| Зеніт | 8.55 | 20.58 |
| Вілейка | 9.05 | 21.08 |

## Курсы валют НБ РБ

| | 11.04 | 18.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 610.00 | **8 630,00** |
| Еўра | 11 280.00 | **11 370,00** |
| Злоты | 2 743.17 | **2 769,04** |
| Літ | 3 271.03 | **3 297,54** |
| Расійскі рубель | 277.50 | **276,50** |
| Грыўня | 1 058.26 | **1 060,20** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8600/8660 | **8620/8670** |
| Еўра | 11250/11370 | **11330/11440** |

## Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.04 | 17.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 109800 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 46300 | **45850** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 50000 | **48000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 83000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24600 | **24500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 22800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 22700 | **22700** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 95800 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9100 | **9550** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9200 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 11000 | **10500** |
| **Алей** | 15500 | **15450** |
| **Маянэз**, 200 г | 4650 | **47000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9900 | **9900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3500 | **3800** |
| **Капуста**, 1 кг | 9500 | **10000** |
| **Морква**, 1 кг | 5900 | **5500** |
| **Буракі**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18000 | **16500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **13000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 20000 | **15000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 22500 | **25000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 17000 | **18800** |
| **Перац**, 1 кг | 36000 | **34000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 32000 | **28500** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **13000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 6000 | **7500** |
| **Грушы**, 1 кг | 23000 | **15000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 10000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **75000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | - | **18000** |
| **Сала**, 1 кг | 46000 | **45000** |
| **Бульба** | 10000 (5л) | **12000** (5л) |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Расплата за забойства прыйшла праз 15 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Сышлі ў гісторыю ліхія 90-я. Папулярны серыял "Брыгада", у якім расійскія акцёры ігралі далёка не выдуманыя сюжэты таго пераломнага часу, паступова сціраецца ў памяці.**

А ў сейфах следчых усё яшчэ чакаюць свайго часу шматтомныя справы, распачатыя па слядах жорсткіх забойстваў і разбойных нападаў тых гадоў.

Нядаўна Вярхоўны суд Беларусі пакінуў без змены прысуд судовай калегіі Гродзенскага абласнога суда, вынесены жыхару Маладзечна **Яўгену Радзівіловічу**.


Фота img-fotki.yandex.ru

Злачынцы ўварваліся ў дом гаспадара ў масках.

У студзені 1997 года пад покрывам ночы ён разам з "камандай" таких жа аматараў лёгкай нажывы напаў на **Аляксандра**, жыхара вёскі Ласосна на Гродзеншчыне. Яго пазбавілі жыцця дзеля нейкіх паўтары сотні долараў і залатога заручальнага пярсцёнка.

А ўсё пачалося з таго, што пяцёра маладых хлопцаў, якія зараблялі толькі крадзяжамі і рабаваннямі на Міншчыне і Гродзеншчыне, атрымалі інфармацыю, што ў прыгарадзе Гродна жыве чалавек, які "зарабляе" абменам валюты. Па іх разліках, у яго доме ляжыць не менш за дзясятак тысяч долараў.

Адзін з наводчыкаў і ўдзельнікаў аперацыі **Леанід**, жыхар Гродна, быў знаёмы з "валютчыкам". Ён разам з яшчэ адным змоўшчыкам, жыхаром Ашмянаў **Пятром**, абавязаўся даставіць галоўных удзельнікаў "аперацыі" – трох маладзечанцаў – да месца і забяспечыць кватэрай.

Па прыбыцці ў Гродна усе пяцёра пабывалі ў вёсцы Ласосна, абследавалі мясцовасць і наметілі шляхі адыходу пасля завяршэння "справы".

Дзявятага студзеня, калі зусім сцямнела, пад'ехалі да патрэбнага дома і размеркавалі ролі. Леанід з Пятром засталіся ў салоне аўтамабіля і павінны былі сачыць за наваколлем, а пасля канфіскацыі грошай усіх удзельнікаў павезці далей.

Самую важную частку аперацыі ўзялі на сябе маладзечанцы **Павел**, **Віталь** і **Яўген**. Вырашылі, што Павел пастукае ў дзверы і папросіць гаспадара абмяняць долары, нібыта па просьбе маці. Калі адчыняцца дзверы, двое іншых у масках уварвуцца ў дом і запатрабуюць грошы. Калі ж гаспадар будзе супраціўляцца, то прымяняць насілле.

Так і зрабілі. Калі на просьбу абмяняць долары Аляксандр прыадчыніў уваходныя дзверы, Віталь і Яўген у масках тут жа ўварваліся ў дом. Гаспадар паспрабаваў абараняцца: пабег у спальню і выхапіў з-пад падушкі газавы пісталет. Аднак стрэліць не паспеў – пісталет адабралі і ім жа нанеслі гаспадару аглушальныя ўдары па галаве, ад якіх Аляксандр страціў прытомнасць.

Потым утрох звязалі ахвяру па руках і нагах і яшчэ некалькі разоў ударылі па галаве, ад якіх Аляксандр ужо ачуняць не змог і памёр на месцы.

Перавярнуўшы у хаце ўсё, злачынцы знайшлі 150 долараў, знялі з пальца забітага залаты пярсцёнак і забралі з тумбачкі два паляўнічыя нажы. Больш нічога каштоўнага ў хаце не знайшлі.

Да гонару гродзенскіх сышчыкаў, нягледзячы на тое, што злачынства рыхтавалася загадзя, яго ўсё ж раскрылі. І праз некаторы час чацвёра з пяці ўдзельнікаў разбойнага нападу і забойства былі знойдзеныя і прысуджаныя да пазбаўлення волі.

Яўгену атрымалася ўцячы, яго сляды згубіліся на бязмежных прасторах Расіі. У рэшце рэшт, ён пасяліўся ў горадзе Самара, абзавёўся сям'ёй і ўладкаваўся працаваць ахоўнікам. Аднак пошукі злачынцы працягваліся.

Замінка адбылася з-за таго, што ў адным з афіцыйных дакументаў "згубілася" літара "і", і ў электронную базу дадзеных увялі прозвішча Радзвіловіч замест Радзівіловіч. Да таго ж 35-гадовы мужчына пра грахі сваёй маладосці ў роднай Беларусі стараўся не распаўсюджваца.

Аднак і "шчаслівая" памылка друку ў дакуменце, і новае месца жыхарства забойцу не ўратавалі. Расійскія паліцыянты ў цесным супрацоўніцтве з беларускімі міліцыянтамі ўсё ж дакапаліся да ісціны і ўстанавілі, што ахоўнік Радзвіловіч і забойца Радзівіловіч – гэта адна і тая ж асоба.

У выніку 30 студзеня 2012 года, праз 15 гадоў, яго затрымалі і даставілі ў следчы ізалятар з наступнай экстрадыцыяй на тэрыторыю Беларусі.

Сведкі-змоўшчыкі, якія выступалі на судзе, паспелі адбыць прызначаныя судом пакаранні за разбойны напад і забойства ў вёсцы Ласосна. Але ўсё ж успомнілі падрабязнасці той сумеснай вылазкі ў горад над Нёманам 15-гадовай даўніны і распавялі пра іх суду.

У выніку, бліжэйшыя 13 гадоў Яўген Радзівіловіч правядзе ў выпраўленчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Для яго век дваццаты яшчэ не скончыўся ...

**Яўген ТРУЦЬКО,**
**намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гродзенскай вобласці, старшы саветнік юстыцыі.**

## Папаўся п'яным за рулём другі раз – атрымай штраф 30 мільёнаў рублёў

**ВІЛЕЙКА. Машыну з п'яным кіроўцам за рулём супрацоўнікі ДАІ затрымалі ўвечары трэцяга лютага ў вёсцы Ілья Вілейскага раёна.**

Мужчына паехаў на рыбалку. Там ён выпіваў, а калі вяртаўся дадому, яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ. Машына "Рэно-Меган Класік" зарэгістраваная на яго жонку.

Мужчына цалкам прызнаў сваю віну. Ён расказаў, што летась быў падобны выпадак. Тады яго пазбавілі правоў на тры гады і далі штраф.

Цяпер суд пазбавіў мужчыну правоў на пяць гадоў. А таксама яму неабходна выплаціць штраф 30 мільёнаў рублёў.

Мужчыну 46 гадоў. Ён жыве ў Мінску і працуе маляром. Жанаты і не мае судзімасці.

**Віктар ГАТОЎКА, памочнік пракурора Вілейскага раёна.**



СЛУЖБА 101

## У лесе знайшлі парэшткі тушы дзічыхі

**ВІЛЕЙКА. Парэшткі тушы дзічыхі знайшлі інспектары аховы прыроды і прадстаўнікі лесапаляўнічай гаспадаркі Вілейскага доследнага лясгаса 8 красавіка ў час сумеснага рэйду.**

У паляўнічых угоддзях лясгаса паблізу вёскі Шчукі Вілейскага раёна яны выявілі шкуру, галаву і ўнутранасці жывёлы.

У ходзе дэталёвага агляду парэшткаў тушы інспектары і іх калегі выявілі адтуліну. Па знешніх прыкметах яна была падобная да дзіркі ад кулі з гладкаствольнай зброі.

Па папярэдніх дадзеных, жывёла загінула 6 красавіка.

Узрост яе можа быць каля 4 гадоў, вага – каля 100 кг.

Шкода, якую браканьеры прычынілі наваколньаму асяроддзю, – прыкладна шэсць мільёнаў рублёў.

На месца знаходкі выклікалі аператыўнаследчую групу Вілейскага РАУС.

**Таццяна ГРЫНЦЭВІЧ,**
**інспектар Вілейскай міжраённай інспекцыі аховы прыроды.**

– Калі наша аператыўна-следчая група выехала на месца здарэння, яна зразумела, што трэба ўзбуджаць крымінальную справу, – кажа намеснік начальніка Вілейскага РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Яны агледзелі месца здарэння і зразумелі, што быў зроблены незаконны адстрэл жывёлы.

Супрацоўнікі міліцыі знайшлі неабходныя фрагменты для правядзення экспертызы і зрабілі фотаздымкі.

Цяпер вядзецца следства. Злачынцы пакуль не знайшлі.

**Таму, хто застрэліў жывёліну, пагражае штраф або пазбаўленне волі да трох гадоў.**

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Эвакуатар расчысціць дарогі

Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае гаспадарам транспартных сродкаў, што, згодна з Указам Прэзідэнта Беларусі №36 "Аб некаторых пытаннях прымусовай адбуксіроўкі (эвакуацыі) транспартных сродкаў", будуць праводзіцца спецыялізаваныя рэйды сумесна з прадстаўнікамі СМІ.

Яны будуць накіраваныя на папярэджанне і спыненне фактаў парушэння правіл спынення і стаянкі транспарту. Асаблівую ўвагу будуць звяртаць на дваровыя тэрыторыі, прыпынкі грамадскага транспарту, "зялёныя зоны", месцы каля дзіцячых пляцовак і ўстаноў адукацыі.

## Шукаюць сведкаў аварыі ў Лебедзеве

**МАЛАДЗЕЧНА.** 30 студзеня каля 18 гадзін на аўтадарозе Маладзечна-Смаргонь каля дома №4 па вуліцы Савецкай у Лебедзеве здарылася аварыя.

Сутыкнуўся "Фольксвеген-Гольф" і аўтацягнік "Daf".

Просім сведкаў і відавочцаў аварыі звярнуцца ў ДАІ Маладзечанскага райаддзела міліцыі: *вуліца Тамары Дудко, 1/18.* Тэлефоны: **8(0176) 74-53-40, 74-68-41, ці 102.**

**Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

## Дапамажыце знайсці злодзея

**МАЛАДЗЕЧНА. Міліцыя шукае Міхаіла Пятровіча Шаўлюка, які ўцёк ад следства. Ён нарадзіўся 7 сакавіка 1960 года, жыве ў вёсцы Пекары на Маладзечаншчыне на вуліцы Цэнтральнай, 42–2.**



Мужчына абвінавачаны за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра яго месцазнаходжанне, пераканаўча просім паведаміць па тэлефонах у Маладзечанскі РАУС: **8 (0176) 771656, 749683**, альбо **102** у найбліжэйшы аддзел міліцыі.

Ананімнасць і ўзнагароджанне гарантуюцца.

**Валянцін АСІПОВІЧ,**
**падпалкоўнік, першы намеснік начальніка РАУС, начальнік крымінальнай міліцыі.**

СЕЗОН

# Бярозавага соку сёлета могуць нарыхтаваць менш

**СМАРГОНЬ. ВАЛОЖЫН. МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета з-за халоднай вясны сезон масавага збору бярозавага соку ў некаторых раёнах можа доўжыцца ўсяго некалькі дзён.**

### Ёсць верагоднасць, што ў Смаргоні соку нарыхтуюць менш

Як паведаміў намеснік начальніка Смаргонскай лясной гаспадаркі **Андрэй Пятроўскі**, сок ужо можна спускаць. Але ў лесе ляжыць шмат снегу, таму дабрацца да бяроз цяжка.

– У панядзелак ужо адправілі сок на экспертызу, – кажа спадар Андрэй. – Самы спрыяльны перыяд для спускання соку, калі начная тэмпература 5-10 градусаў вышэй за нуль. Паўднёвыя гарады Беларусі ўжо прыступілі да гэтай работы. Напрыклад, у Ваўкавыску ўжо павесілі на бярозы мяшкі, – дадае спадар Андрэй.

Сёлета Смаргонская лесагаспадарка плануе нарыхтаваць 200 тон соку, які адправяць на Мінскі завод безалкагольных напояў. Летась нарыхтавалі каля 180 тон соку.

– Сёлета ёсць вялікая верагоднасць, што план не выканаем. На наступным тыдні абяцаюць 16-20 градусаў, таму сок можам не паспець спусціць, – кажа Андрэй Пятроўскі. – Летась ў красавіку ўжо сяўба поўным ходам ішла, а сёлета на палях яшчэ снег ляжыць. Бярозавік – не самы спажывецкі тавар. Таму грашовыя страты, калі будуць, то невялікія.

Смаргонская лясная гаспадарка плануе для свайго насельніцтва нарыхтаваць на продаж 40 тон соку.

### У Валожыне у чацвер адгрузілі першую машыну соку

Як паведаміў намеснік дырэктара Валожынскай лясной гаспадаркі **Сяргей Мікеня**, у Валожыне у чацвер, 18 красавіка, пачалі адгружаць ужо першую машыну соку.

Сёлета запланавана спусціць 150 тон соку.

– Будзем імкнуцца да таго, каб нарыхтоўваць сёлета сок паўнавартасна, – кажа спадар Сяргей. – Шмат залежыць ад надвор'я. Чым даўжэй будзе холадна, тым больш соку нарыхтуем. Самая спрыяльная тэмпература для таго, каб ліўся сок, – нуль градусаў уначы і пяць градусаў цяпла днём. Калі тэмпература рэзка падскочыць, пупышкі распусцяцца, то сок ужо будзе непрыгодны для ўжывання.

### У аўторак у Маладзечне спусцілі 10 тон бярозавіку

Дырэктар Маладзечанскай лясной гаспадаркі **Аляксей Ермаловіч** расказаў, што першы раз адбаецца такое адначасова: і снег ляжыць, і сок ідзе.

– Сёлета адразу трэба сем спраў рабіць, – кажа спадар Аляксей. – І лес саджаць, і парадак наводзіць, і сок спускаць. У нас жа лясная гаспадарка пад адкрытым небам – што божанька дасць, тое і атрымаем.

Работнікі лясной гаспадаркі спадзяюцца, што план будзе выкананы, а гэта 200 тон соку. Хаця рызыка усё ж такі ёсць, бо наступны тыдзень абяцае быць цёплым. Сок перастае цячы за тыдзень да распускання лісточкаў.

Цяпер у кожным лясніцтве на нарыхтоўцы соку працуе па чатырыпяць чалавек. Больш працы прыпадае на Маладзечанскае, Красненскае і Гарадоцкае лясніцтвы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Бярозавы сок трэба здабываць з розумам

**ВІЛЕЙКА. Пры нарыхтоўцы бярозавага соку ў мэтах прафілактыкі Вілейская міжраённая інспекцыя аховы прыроды звяртае ўвагу на неабходнасць выканання прыродаахоўнага заканадаўства.**

Любы чалавек мае права спусціць бярозавы сок на тэрыторыі ляснога фонду, якая спецыяльна адведзеная для гэтых патрэб. Варта ўсяго толькі звярнуцца ў лясную гаспадарку па месцы жыхарства. У большасці лясгасаў і лясніцтваў можна набыць ужо гатовы прадукт.

Нарыхтоўка соку дазволеная не толькі ў пэўных месцах, яго можна здабываць на ўчастках лесу, якія не ўваходзяць у лясны фонд. Выключэннем стануць прыбярэжныя палосы водных аб'ектаў, паблізу чыгункі і аўтамабільных дарог, у населены пунктах, батанічных садах, на тэрыторыях аховы здароўя і ў курортных зонах.

Спосабы здабычы соку не павінны прыносіць шкоды дрэву і псаваць тэхнічныя якасці драўніны.

За незаконную нарыхтоўку соку на тэрыторыі, дзе гэта забаронена, або без неабходных дакументаў на здабычу чалавека чакае папярэджанне або штраф у памеры двух мільёнаў рублёў. Такое ж пакаранне чакае парушальніка закона ў выпадку, калі ён будзе выкарыстоўваць сродкі і матэрыялы, якія пашкоджваюць дрэва.

Калі дрэва пасля такога збору соку зусім засохне, парушальніка чакае адміністрацыйная адказнасць і штраф у памеры ад 500 тысяч рублёў да 5 мільёнаў.

Велічыня штрафу будзе залежаць ад месца здзяйснення правапарушэння. Вінаватыя павінны будуць не толькі заплаціць штраф, але і пакрыць шкоду, якую прычынілі навакольнаму асяроддзю сваёй незаконнай нарыхтоўкай соку.

Дык ці варта рызыкаваць? Бо на суму атрымананага штрафу, няхай нават самага мінімальнага, можна было б купіць нямала соку.

**Калі вы ведаеце, дзе нелегальна нарыхтоўваюць сок, – пазваніце па тэлефоне “гарачай лініі” – 3-52-26.**

**Таццяна ГРЫНЦЭВІЧ,**
**інспектар Вілейскай міжраённай інспекцыі аховы прыроды.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# "Калі я зваліўся на дно, знізу пастукалі"



Фота Настассі РОЎДЫ.

Макет дэкарацый да прэм'ернага спектакля "Падобны да Стынга".

**МАЛАДЗЕЧНА. Прэм'ера спектакля "Падобны да Стынга" адбудзецца ў Мінскім абласным драмтэатры ў Дзень чарнобыльскай катастрофы, 26 красавіка.**

П'есу напісала кінадраматург **Ірына Пісьменная**. Летась на сусветным кангрэсе драматургаў у Стакгольме п'еса "Падобны да Стынга" заняла другое месца.

## Сюжэт: коратка і не вельмі ясна

– П'еса – пра духоўны Чарнобыль, – тлумачыць рэжысёр-пастаноўшчык тэатра **Мікалай Дзінаў**.

Уявіце закінутую вёсачку ў чарнобыльскай зоне. Невялікую, як хутарок, дзе ўсяго пяць дамоў. Тут нiхто не жыве, акрамя пажылой жанчыны, якая даглядае за ўсімі хаткамі.

У гэта забытае Богам месца трапляе малады хлопец, які раней вучыўся на факультэце міжнароднай журналістыкі. У яго ўжо сапсаваны лёс. Ён толькі збег з турмы. І адзінае пачуццё, якое ў яго засталося, – гэта страх.

Жанчына паступова, праз вялікія пакуты, ставіць хлопца на ногі. А потым проста сыходзіць.

– Я не называю гэта смерцю, – кажа спадар Мікалай. – Я называю гэта ўзнясеннем.

Хлопец адзін. Яму няма куды падзецца. Ён ужо гатовы накласці на сябе рукі, але падсвядомасць падказвае, што трэба жыць і змагацца. І ён падхоплівае эстафету той жанчыны і пачынае жыць яе жыццём.

## Што хоча гэтым сказаць рэжысёр?

– У п'есе для мяне існуюць два панацыі: каханне і страх, працягвае спадар Мікалай. – Гэта не цялеснае каханне, ні ў якім разе. Не люблю гэтае слова, але скажу: гэта нешта сакральнае.

Спадар Мікалай прыгадаў словы польскага пісьменніка Станіслава Ежы Лец: "Калі я зваліўся на самае дно, знізу пастукалі".

У пастаноўцы "Падобны да Стынга" той ратавальны стук пачуў маладзён ад адзінокай жанчыны.

– Падаюць многія, – працягвае Мікалай Дзінаў, – а вось падняцца могуць не ўсе. І трэба сказаць дзякуй таму, хто дапамагае ўстаць на ногі.

## І пры чым тут Чарнобыль?

– У спектаклі паказваюцца ўспаміны пра чарнобыльскую катастрофу. Хлопец забіў чалавека, каб выратаваць жанчыну. На яго ж павесілі двайное забойства ды яшчэ і згвалтаванне. І ён уляцеў па самую катушку, бо ў турмах саміх гвалтаўнікоў гвалцяць. З-за гэтага і збег.

## З чаго раптам "Падобны да Стынга"?

– Вы ведаеце, што Стынг – гэта псеўданім спевака? – пытаецца спадар Мікалай. – На англійскай – гэта вельмі ёмкае. З аднаго боку, яно азначае "прычыняць боль, джаліць, кусаць", а з іншага – "цярпець боль і трываць пакуты".

## Хто ў галоўных ролях?

Адзінокую жанчыну іграе **Ірына Кляпацкая**. А хлопца – **Аляксей Карпец**.

– Ёсць у мяне яшчэ выдатная пяцёрка акцёраў, якія іграюць падсвядомасць, – дадае Мікалай Дзінаў. – Яны ўрываюцца, часам нават супраць волі герояў.

## Ці падрыхтаваная публіка?

– Публіка непадрыхтаваная. Але ў маёй практыцы былі дзіўносныя рэчы. Некалі здарыўся проста фенаменальны выпадак. Я нават да цяперашняга часу не магу патлумачыць яго прычыны. Пасля складанага філасофскага спектакля падыходзіць да мяне просты чалавек, мужык. Слёзы ў яго цякуць. Я пытаюся, што здарылася, а ён бярэ маю руку, цалуе і кажа: "Дзякуй".

## Рэжысёр пра сябе

У маладзечанскім тэатры Мікалай Дзінаў працуе шосты месяц. "Падобны да Стынга" – яго другая пастаноўка.

– Сёлета ў верасні будзе 55 гадоў, як я ўпершыню прыйшоў у тэатр. І цяпер пакутліва жадаю ўім разабрацца. Мяне ўражваюць людзі, якія маюць маленькі досвед тэатральнага жыцця, але ўсё знаюць.

Я не ведаю, што атрымаецца. Геніяльную для мяне фразу сказаў Яўген Вахтангаў: "Адзіны рэалізм, які я прызнаю, гэта фантастычны рэалізм. Што і ёсць тэатр".



Настасся РОЎДА
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

МАСТАЦТВА

# "Мы ўсе жывём на адной зямлі"

**МЯДЗЕЛ. У Музеі народнай славы 5 красавіка адкрылася выстава "Адна зямля" вілейскага мастака Эдуарда Мацюшонка. На ёй прадстаўленыя 22 карціны.**

Большасць прац звязаныя з Вілейшчынай, ёсць таксама краявіды Мядзельшчыны, Астравеччыны, Глыбоччыны.

На адкрыцці выставы Эдуард Мацюшонак не проста расказваў пра свае творы, а дзяліўся роздумамі пра жыццё. Прызнаваўся: "Яны найбольш яскрава дапамагаюць зразумець тое, што я раблю".

І найбольш кранальна гучалі гэтыя роздумы, калі мастак расказваў пра родныя мясціны:

– Магу, пэўна, сказаць без памылкі, што ў кожнага з вас ёсць той куточак, дзе вы адчуваеце сябе надта ўтульна і добра. Калі вы прыязджаеце, становіцеся нагамі на гэту зямлю, то адчуваеце, што атрымліваеце тую энергію, якую калісьці вы атрымалі ўпершыню ад сваёй маці. Тут упершыню вы пачулі, як спявае птушка, упершыню вы плакалі, упершыню кахалі, упершыню рабілі нешта такое, чаго дагэтуль у вашым жыцці не было. Гэта вось тая зямля, без якой жыць немагчыма. І дзе б вы ні былі, куды б ні закінуў вас лёс, але гэта зямля – ваша.

І як доказ улюбёнасці аўтара ў родную зямлю, беларускую вёску і яе людзей, м былі карціны "Спеў жураўля", "Трэба дома бываць часцей", "У бабулі", "Грамнічная свечка", "Чаканне"…

На выставе таксама прадстаўленыя некалькі рэканструкцый – у карцінах мастак узнавіў тое, чаго цяпер няма: млын на рацэ Вузлянка, палац Агінскіх у Ганусе (цяпер Ручыца), колішняя Вілейка.

Творца так патлумачыў, чаму напісаў гэтыя карціны:

– Рэканструкцыі раблю для таго, каб чалавек падышоў да працы і сказаў: "На гэтым месцы, аказваецца, было вось так, не проста пустое поле". І тады з'яўляецца больш павагі да тых мясцін, дзе жывеш.

Пра гісторыю мясцін, што на карцінах-рэканструкцыях, дапамаглі мастаку расказаць дырэктар Мядзельскага музея народнай славы **Святлана Чарняўская**, дырэктар і старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар** і **Вольга Коласава**.

Запытаў у Эдуарда Мацюшонка, чаму вырашыў правесці выставу ў Мядзеле.

– Ведаеце, вырашыў зрабіць такія выставы, якія б нейкім чынам паказвалі, што мы ўсе жывём на адной зямлі, мы ўсе з аднаго краю – каб неяк больш аб'ядναць людзей. Праходзілі такія выставы ў Браславе, Паставах, цяпер у Мядзеле, далей паедзем на Глыбоччыну.

– Было вельмі цікава слухаць вашы аповеды, роздумы. А ў вас якія ўражанні засталіся?

– Адчуваў такое адзінства і тое, што мае словы амаль што матэрыялізуюць думкі людзей, якія знаходзяцца тут. Па вачах было бачна: мы цяпер тут адзінае.

Па заканчэнні прэзентацыі да мастака падыходзілі мядзяльчане, дзякавалі за творчасць, за карціны, якія кранулі да глыбіні душы. Здаецца, найбольш эмацыйна свае думкі выказала метадыст аддзела адукацыі **Ларыса Севярын**:

– Гэта маё, разумееце… Я праз гэтыя карціны прапусціла сваё жыццё. Мае карані таксама ў такой вёсцы, каля такога возера, дзе і рамонкі, і валошкі. Эдуард Уладзіміравіч паказаў, што сапраўды не трэба цураецца ні свайго краю, ні сваіх мясцін. Філасофію яго жыцця я ўпусціла ў сябе, яна лягла амаль да аднаго пласта. І яшчэ так паднёс усё аўтар, што выклаў усю сваю душу як аголены нерв. Прыйду дадому, напэўна, напішу верш.

Працаваць выстава "Адна зямля" будзе да 15 мая.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ІНТЭРВ'Ю

# *Пётр Ялфімаў:* "Павінны ж быць хоць у некага прыстойныя штаны!"

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні адбыўся конкурс маладых выканаўцаў "Маладзічок-2013."**

Уладальнікам Гран-пры стаў адзінаццацікласнік з Ашмянаў **Вадзім Лукашэвіч**, які выканаў дзве песні, адна з якіх – Пятра Ялфімава "Званы".

Пасля конкурсу нам удалося пагаварыць з адным з членаў журы, вядомым беларускім спеваком Пятром Ялфімавым.

Пётр з задавальненнем адказаў на пытанні і пра конкурс, і пра свой новы альбом, і пра... славутыя скураныя штаны.



Пётр Ялфімаў (на пярэднім плане) лічыць, што спявак павінен разбірацца не толькі ў музыцы, але і ў адзенні.

## "Яна яшчэ не пачала спяваць, а ты ўжо палюбіў яе"...

**– Пётр, скончыўся конкурс, што вы цяпер адчуваеце?**

– Як і заўсёды пасля такіх мерапрыемстваў... пустату.

**– Вы неаднаразова выступалі і ў ролі канкурсанта, і ў ролі члена журы. Дзе вы сябе адчуваеце больш камфортна?**

– Вядома, на сцэне. Вось "Маладзічок" – конкурс дзіцячы. Першая ўзроставая група – дзеткі ад 6 гадоў. Выходзіць такая кнопачка маленькая на сцэну, яна яшчэ не пачала спяваць, а ты разумееш, што ўжо палюбіў яе. І як такое можна ацэньваць?

**– І як жа?**

– Зразумейце правільна, але мы па вялікім рахунку ацэньвалі працу педагогаў.

Калі дзіця выходзіць на сцэну і спявае, яно робіць так, як яго навучылі. Таму вельмі важна выбраць правільную песню. Праца над песняй – гэта вельмі цяжкая справа. І халтуры яна не даруе.

**– На ваш погляд, з якімі песнямі нельга ўдзельнічаць у конкурсе?**

– Бывае, чуеш сотні варыянтаў выканання песні, а знойдзецца нейкі штрышок – і ты лідар. Педагогам трэба памятаць, што на такіх конкурсах дзіця павінна выглядаць яскрава.

Так адбылося і з хлопцам – уладальнікам Гран-пры. Вадзім выбраў для выканання маю песню – "Званы". Я чуў яе тысячу разоў. Але Вадзім выканаў так, што ні ў мяне, ні ў іншых членаў журы не засталося сумневаў.

## Маладзечна ведаю і люблю!

**– Вы прыехалі ўчора. Што рабілі вечарам?**

– Спаў. Я вельмі часта бываю ў вашым горадзе. Ведаю яго і люблю. Але пры маім рытме жыцця часам проста хочацца легчы і выспацца.

**– На вашым сайце з'явілася інфармацыя, што хутка выходзіць новы альбом...**

– Той альбом, пра які пісалася на сайце – "Кніга адкрыцця", – ужо даўно выйшаў! Сайт вельмі даўно не абнаўляўся. Так што можна анансаваць ужо другі дыск.

Я рыхтую да выпуску акустычны альбом. Але проста не магу дазволіць сабе такой раскошы: засесці ў студыю і працаваць толькі над нечым адным.

**– Калі ўводзіш на пошукавых сайтах хард-рок, многія сайты выдаюць там і ваша імя. Вы самі сябе адносіце да хард-року?**

– Маё імя сярод хардрокераў? Цудоўна. Так яно і ёсць. Так, я хард-рокер. Нават можна сказаць, і металіст. Я люблю цяжкую музыку.

**– Вам цікавей іграць такую музыку, чым лірычную?**

– У рэпертуары артыста павінны быць розныя кампазіцыі. Я з задавальненнем выконваю і лірыку. Запісаў акустычную версію сваёй песні "Я хачу". Дык мой бацька цяпер арыгінальную версію і не ўспрымае. Слухае толькі лірычны варыянт. Таму і з'явілася ідэя акустычнага альбома. На жаль, не ўсім падабаюцца цяжкія рокерскія рэчы.

**– Вы неяк у інтэрв'ю сказалі, што выраслі з "конкурсных штонікаў". Пасля якога конкурсу прыйшло адчуванне таго, што ўсё, хопіць, што мог, тое зрабіў?**

– Проста і ўзрост ужо не той. Мне 33 гады, а па ўмовах многіх конкурсаў узроставая мяжа выканаўцаў да 30 гадоў.

Пасля Сусветнага чэмпіянату выканаўчых відаў мастацтва ў Амерыцы, дзе я заваяваў пяць залатых медалёў у пяці намінацыях, я думаю, што з мяне хопіць ужо конкурсаў. Я ўжо сам да конкурсаў рыхтую дзяцей.

**– А за конкурсам "Еўрабачанне" сочыце?**

– Роўна так, як звычайны глядач. Пачынаецца трансляцыя па тэлебачанні – уключаю, гляджу, выключаю.

**– А пасля "Еўрабачання" не пашкадавалі, што так брыдка лаяліся?**

– Кожны чалавек эмацыйны. Я не выключэнне. Але мяне яшчэ трэба пастарацца вывесці з сябе. Тады гэта некатопым ўдалося. Я і цяпер гатовы паўтарыць тыя ж словы. Але сам конкурс даў мне вельмі шмат. Так што я ні аб чым не шкадую!

**– Пётр, сёння вы і спявак, і прадзюсар, і выкладчык. І, я ведаю, што з нядаўняга часу яшчэ і акцёр.**

– Так, я зняўся ў кінастужцы "Скрасці Бельмандо". Я здымаўся з такімі прафесіяналамі, як Аляксандр Панкратаў-Чорны, Сяргей Журавель, Анатоль Кот. І тут, на здымачнай пляцоўцы, у адрозненне ад сцэны, я адчуў, што мне ў акцёрскім плане трэба яшчэ расці і расці.

## У ЗША мне прапанавалі кантракт мадэлі

**– А вы маглі б адмовіцца ад музыкі на карысць кінематографа?**

– Не, я лічу, што калі і будуць у мяне кінакантракты, то іх можна будзе сумяшчаць з музычнай кар'ерай.

Мне ў ЗША прапаноўвалі кантракт мадэлі. Я толькі ўявіў сабе, што прыйдзецца адмовіцца ад творчасці, каб проста дэфіляваць па подыуме, і адразу адмовіўся. І ні разу аб гэтым не пашкадаваў. Я не гатовы да такіх ахвяр.

**– Пётр, акрамя таго, што вас называюць "дыяментавы голас" Беларусі, вас іранічна называюць "скуранымі штанамі" беларускай эстрады. Не крыўдзіцеся?**

– А што штаны? (Пётр пляскае сябе па каленях). Вось яны – скураныя штаны.

**– А не цяжка ў такіх штанах працаваць? Не дыхае ж скура?**

– Наадварот. Некалькі гадзін на сцэне – і 3-4 кілаграмаў як не было! Вельмі якасны сродак для пахудзення! І потым... Павінны ж быць у кагосьці на беларускай эстрадзе хоць адны прыстойныя штаны!



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08 @mail.ru

ПАДТРЫМКА

# У Вілейцы ствараецца група "Ананімных алкаголікаў"

**ВІЛЕЙКА. У горадзе спрабуюць стварыць групу "Ананімных алкаголікаў". Адзін з тых, хто займаецца гэтай справай, – Андрэй, член падобнай групы з Маладзечна.**

– Наша асноўная мэта – заставацца цвярозымі, – расказвае ён. – Ёсць праграма "12 крокаў", якой кіруемся. У нашай садружнасці могуць быць і каталікі, і праваслаўныя, і пратэстанты, і няверуючыя – мы не паглыбляемся ў гэта пытанне. Абавязковая ўмова для ўступлення – жаданне кінуць піць.

**– Як з'явілася ідэя адкрыць групу ў Вілейцы?**

– Адзін з галоўных нашых прынцыпаў – дапамагаць іншым заставацца цвярозымі, і нічога ўзамен не атрымліваць. Калі гэтага рабіць не будзем, то самім не ўдасца заставацца цвярозымі. Таму і пачынаем дзейнасць у Вілейцы – не з-за таго, каб пашыраца. Бо ўлік колькасці не вядзём – нават не скажу дакладна, колькі ў нас у Маладзечне чалавек. У нас няма членскіх узносаў, толькі добраахвотныя ахвяраванні. Хто колькі можа дае, а калі нічога няма – нічога страшнага, усялякія сітуацыі бываюць.

**– І як ідзе праца па стварэнні групы ў Вілейцы?**

– Пачалі яе ствараць у сакавіку. З памяшканнем для сходаў дапамог тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнай абароны насельніцтва. На першы сход людзей прыйшло няшмат. Расказалі ім пра тое, чым займаемся. На другі сход ніхто не прыйшоў, на трэці – адзін чалавек.

Пакуль інфармацыі мала, будзем больш актыўна яе распаўсюджваць. Ды чым меншы горад, тым больш праблематычна ствараць групы. Людзі саромеюцца, нейкія страхі маюць, што, можа, гэта нейкая секта. Не трэба баяцца: гэта ўсё абсалютна добраахвотна, можна прыйсці і пайсці.

І хоць цікавасць да нашай дзейнасці пакуль слабая, але ўсё роўна я і мае таварышы будзем ездзіць у Вілейку на працягу трох месяцаў, нават калі ніхто не будзе прыходзіць (так у нас прынята). Для нас галоўнае – стварыць касцяк. Калі ён з'явіцца за гэты час, тады зарэгіструецца група. У Вілейцы збіраемся па адрасе: вуліца Маркава, 49, па чацвяргах, у 18 гадзін, тэлефон **8-033-384-22-34.**

**– Што можаце сказаць людзям, якія раздумваюць, ці прыйсці да вас на сход?**

– На сваім досведзе ўпэўніўся, што гэта самы дзейсны шлях, каб кінуць піць. Я два гады не ўжываю алкаголь. Дагэтуль спрабаваў сам не піць, кадзіраваўся тры разы. Гады два таму ўнутрывенна падшываўся.

А праз некалькі месяцаў пасля гэтага зразумеў, што сам не змагу вытрымаць без алкаголю: гэта проста не ў чалавечых сілах. Прыйшоў на сход групы ў Маладзечне. Тут мы дзелімся сваім досведам, сваімі страхамі і перажываннямі, працуем па праграме "12 крокаў" – тым самым мы вылечваемся.

Запрашаем на нашы сходы ў Вілейцы ўсіх, хто жадае кінуць піць. Неабавязкова, каб чалавек стаяў на ўліку ў нарколага, кадзіраваўся: важна, каб ён адчуваў, што ў яго ёсць праблемы з алкаголем. Не прымаем мы толькі тых, хто прыходзіць з нейкай цікаўнасці, паслухаць, пра што мы гаворым.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".**
"Ананімныя Алкаголікі" – гэта садружнасць, што аб'ядноўвае мужчын і жанчын, якія дзеляцца адзін з адным сваім досведам, сіламі і надзеямі з мэтай дапамагчы сабе і іншым пазбавіцца ад алкагалізму.

ПАЗАШКОЛЬНАЯ РАБОТА

# Вучні ўяўлялі мядзельскі замак

**МЯДЗЕЛ. Падведзеныя вынікі раённага конкурсу на лепшую мадэль мядзельскага замка сярод вучняў і педагогаў устаноў адукацыі. Гэты замак існаваў у 15 – пачатку 18 стагоддзя.**

На конкурс было прадстаўлена 15 прац. Замкі рабілі з розных матэрыялаў: салёнага цеста, пап'е-машэ, гіпсу, паперы, пенапласту і нават пластыкавых бутэлек.

У намінацыі "Макет" перамагла сярэдняя школа №2 Мядзела. Лепшы малюнак прадстаўлены з Будслаўскай СШ. Пабачыць конкурсныя працы можна на выставе ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ

# Абанементы на футбол ужо ў продажы

**МАЛАДЗЕЧНА. Сталі вядомыя новыя падрабязнасці пра абанементы на футбольныя матчы маладзечанскай каманды.**

У панядзелак, 15 красавіка, абанементы ўжо здалі ў друкарню на друк. Праз два дні яны былі гатовыя. Дзесяць штук ужо набыла Беларуская чыгунка. Магчымасць стаць уладальнікам абанемента і тым самым падтрымаць маладзечанскі футбол з'явіцца ва ўсіх ахвотных у пятніцу, 19 красавіка. У гэты дзень на гарадскім стадыёне пройдзе сустрэча з галоўным трэнерам і дырэктарам клуба.

Між іншым, менавіта 19 красавіка – апошні тэрмін для падачы заявак на сёлетні чэмпіянат. Тады ж у Мінску адбудзецца пасяджэнне Федэрацыі футбола, на якім будуць зацвярджаць удзельнікаў Другой лігі.

Па каментары "РГ" звярнулася да **Аляксандра Любанца**, дырэктара клуба.

**– Спадар Аляксандр, ці вырашылася сёння пытанне з абанементамі?**

– Цяпер я магу агучыць толькі дакладны кошт на абанементы: ён будзе складаць 120 тысяч рублёў. Набыць іх, хутчэй за ўсё, можна будзе ў касах стадыёна.

**– Ёсць інфармацыя, што з-за мінулагодняга доўгу каманды могуць быць праблемы з падачай сёлетняй заяўкі.**

– Мы іншая юрыдычная асоба. І гэта проста немэтазгодна вешаць на нас мінулагоднія даўгі.

**– Значыць, пытанне з заяўкай вырашана канчаткова?**

– Так. Мы былі на прыёме ў старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандра Яхнаўца**. І райвыканкам вырашыў пайсці нам насустрач. Нам выдзеляць 50 мільёнаў рублёў. Астатнія грошы мы плануем зарабіць за кошт арганізацый. І яшчэ раз паўтаруся, вядзецца актыўная работа са спонсарамі.

**– Як складваюцца перамовы з авіякампаніяй "Эціхад" з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў?**

– Кампанія ўжо зацвердзіла эскізы формы са сваімі лагатыпамі. Таму форму мы ўжо заказалі. Магчыма, атрымаецца знайсці і іншых спонсараў.

**– Ці можна сказаць, што ў клуба ёсць перспектывы?**

– Як толькі будзе вырашана справа гэтага сезона, як толькі хлопцы пачнуць спакойна гуляць, мы пачнём працаваць на перспектыву. Я ўпэўнены, што ўсе нашы намаганні і планы (пры ўмове, што нам не будуць перашкаджаць) увасобяцца ў жыццё. І мы пойдзем да канца, каб толькі вярнуць маладзечанскаму футболу тыя пазіцыі, якія ён калісьці займаў!

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Дзянісам МЯТЛІЦКІМ.

Галоўны трэнер ФК "Маладзечна" Дэяніс Мятліцкі прызнаецца, што пакуль не ведае, каго яму давядзецца трэніраваць у гэтым сезоне.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Віляйчане могуць паехаць на чэмпіянат Еўропы

**ВІЛЕЙКА. Чарговыя міжнародныя спаборніцтвы па каратэ-до Акінава Гадзю-ру прайшлі на мінулым тыдні. Удзельнічалі ў іх і хлопцы з вілейскага клуба "Самурай".**

Сёлетнія спаборніцтвы былі адметныя – свой 20-гадовы юбілей адзначае Беларуская асацыяцыя гэтага віду спорту. Акрамя беларусаў, у турніры бралі ўдзел спартсмены з Латвіі, Расіі, Эстоніі, Літвы і Украіны.

Першы дзень спаборніцтваў паказаў, наколькі моцнымі былі саперніі. Лепшым з "самураеўцаў" стаў **Яша Русак**, які змагаўся за выхад у фінал. Але з-за недарэчнай памылкі ён не атрымаў прызавога месца, а застаўся на чацвертым. Добрыя вынікі меў таксама **Улад Закрэўскі**. Але ў той дзень клуб застаўся без медалёў.

На другі дзень прайшлі паядынкі хлопцаў 14-15 гадоў. Добра выступіў віляйчанін **Мікіта Кірыевіч**. Турнірная табліца склалася так, што яго сапернікамі былі толькі беларусы. Фінал таксама атрымаўся беларускім: за першае месца Мікіта змагаўся са спартсменам з Магілёва. Наш каратыст атрымаў другое месца.

У спаборніцтвах старэйшай узроставай катэгорыі ўдзельнічалі трое віляйчан. Лепшым стаў **Павел Кірыевіч**, які ў цяжкай барацьбе пераміог расіяніна. Павел стаў таксама чэмпіёнам Беларускай асацыяцыі каратэ-до Акінава Гадзю-ру. У выніку двух удзельнікаў "Самурая" ўжо запрасілі кандыдатамі ў зборную для паездкі на чэмпіянат Еўропы.

**Сяргей КІРЫЕВІЧ, кіраўнік клуба "Самурай".**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Вучаць будучых матацыклістаў



Фота motonews.ru.

Матацыклістам нельга грэбаваць правіламі дарожнага руху.

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзяржаўтаінспекцыя сумесна з дабрачынным таварыствам садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту (ДТСААФ) праводзіць навучанне кіраванню матацыклам сярод 16-гадовых юнакоў і дзяўчат, якія не маюць пасведчання кіроўцы.**

Калі навучэнцы паспяхова здадуць экзамен па Правілах дарожнага руху і практычным кіраванні матацыклам, ім выдадуць пасведчанні кіроўцы.

Рэгістраваць ахвотных будуць 22 красавіка на аўтадроме ДТСААФ па вуліцы Віленскай, дом 64. Тэлефоны: **8 (0176) 73-48-00, 73-56-03, 74-53-45, 74-53-47.**

Акцыя арганізаваная, каб папярэдзіць дарожна-транспартныя здарэнні з удзелам матацыклістаў, а таксама, каб садзейнічаць моладзі атрымліваць пасведчанне кіроўцы матацыклам.

**Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

НАВІНЫ

## Перамаглі мядзельскія медыкі

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 13 красавіка, у фізкультурна-аздараўленчым цэнтры прайшоў міжрэгіянальны турнір па валейболе сярод ветэранаў (гэта гульцы, якім за 40 год). Прынялі ў ім удзел дзве каманды з Мядзела, а таксама са Смаргоні, Ашмянаў і Вілейкі.

– Спаборніцтвы праходзілі ў дзвюх групах, – паведаміў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**. – У фінале сустрэліся лепшыя ў сваіх групах – каманды Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы і Смаргоні.

Перамаглі ў фінальным матчы і адпаведна ў турніры мядзельскія медыкі. Каманда са Смаргоні стала другой. А трэцяе месца заваявалі прадстаўнікі аддзела адукацыі Мядзельскага райвыканкама, якія ў матчы за "бронзу" абыгралі каманду Ашмянаў.

## Мацнейшымі былі тэнісісты з аддзела адукацыі

**ВІЛЕЙКА.** 13 красавіка ў раённым фізкультурна-аздараўленчым цэнтры "Імпульс" адбылася спаборніцтвы па настольным тэнісе ў рамках круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў раёна. У спаборніцтвах прынялі ўдзел прадстаўнікі сямі працоўных калектываў. У кожнай камандзе былі па два мужчыны і адна жанчына.

Першае месцы занялі тэнісісты аддзела адукацыі, на другім – ААТ "Зеніт БелОМА", на трэцім – цэнтра "Надзея-ХХІ стагоддзе".

– У рамках круглагадовай спартакіяды гэта ўжо чацверты від праграмы, – паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**. – Пасля чатырох відаў у лідарах прадстаўнікі аддзела адукацыі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мікіта Біслюк стаў лепшым шахматыстам

**ВІЛЕЙКА.** 13 красавіка раённы фізкультурна-аздараўленчы цэнтр "Імпульс" праводзіў турнір сярод школьнікаў і моладзі па шахматах. У ім прынялі ўдзел 10 чалавек.

Пераможцам турніру стаў вучань СШ №3 **Мікіта Біслюк**. Ён не прайграў ні адной сустрэчы. Трое шахматыстаў набралі аднолькавую колькасць ачкоў. Другое месца па дадатковых паказчыках заняў вучань СШ №3 **Павел Чаўлытка**, а трэцяе месца ў навучэнца каледжа **Міхаіла Малюшкіна**.

**Аляксандр ВАЙДА, інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс".**

## Абяруць "Каралеву рынга"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Палац культуры прымае турнір па прафесійных баях. Спаборніцтвы пройдуць у нядзелю, 21 красавіка. Сярод заяўленых відаў спорту – тайландскі бокс, саньда, баявое самба.

У межах турніру пройдзе і конкурс прыгажосці "Каралева рынга", а сярод гледачоў разыграюць прызы і падарункі. Пачатак – а 18 гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Завяршыўся валейбольны турнір

**МАЛАДЗЕЧНА.** Фінальныя гульні сярод калектываў фізкультуры раёна прайшлі з 9 па 11 красавіка ў спартыўна-забаўляльным цэнтры. Змагаліся за перамогу мужчыны.

Першае месца засталося за камандай Маладзечанскіх электрасетак, другое атрымала "Забудова", трэцяе – агракамбінат "Аляхновічы". Чацвертымі сталі прадстаўнікі маладзечанскага МНС.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Міхаілам ЧАРКАСАВЫМ.

Момант фінальнай гульні.

ТРАНСПАРТ

# З якімі прэтэнзіямі звяртаюцца ў аўтапарк?

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю “Рэгіянальнай газеты” звярнулася чытачка са скаргай на якасць паслуг аўтапарка.**

Па яе словах, на мінулым тыдні адна з пасажырак аўтобуса зламала руку ў салоне. “Будзем чакаць, пакуль галаву каму-небудзь адарве?” – пытаецца жанчына.

За каментарамі “РГ” звярнулася да дырэктара аўтапарка.

– Да нас на гэтым тыдні не звярталіся людзі з траўмамі, – кажа **Яўстафій Каравай**. – Ад вас першы раз чую пра здарэнне. Звярнуцца да нас было б у інтарэсах самой жанчыны, калі б яна хацела атрымаць кампенсацыю.

У выпадку, калі нешта здарылася ў аўтобусе, трэба з захаваным білетам звярнуцца ў аўтапарк. Там складаюць акт і афармляюць зварот да страхаўшчыка. Пасля пацярпелы атрымае кампенсацыю за атрыманую шкоду.

Яшчэ адна скарга чытачкі – на недахоп аўтобусаў маршруту №5, які едзе да вёскі Насілава.

– Колькасць аўтобусаў па гэтым маршруце не скарачалася, – запэўнівае дырэктар аўтапарка. – Цяпер, калі “Камунальнік” падсыпаў дарогі да камбіната хлебапрадуктаў, аўтобус спыняецца і там. Калі ёсць патрэба павялічыць колькасць аўтобусаў – варта звяртацца ў райвыканкам. Бо ён з’яўляецца заказчыкам паслуг аўтапарка і зацвярджае маршруты. Да таго ж кожны новы рэйс – вялікія грошы.

Яшчэ з Насілава ідзе не гарадскі, а прахожы аўтобус, які спыняецца на аўтавакзале. Кошт праезду ў ім не даражэйшы за гарадскі.

**У канкрэтных выпадках спазнення транспарту можна звяртацца ў дыспетчарскую аўтапарка па тэлефоне 77-83-39.**

– Вядома, мы не можам гарантаваць на 100%, што аўтобусы будуць хадзіць па раскладзе выдатна, – кажа Яўстафій Каравай. – Але ж апошнім часам скаргаў на спазненні ў нас амаль няма.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**


Фота Настасі РОЙДЫ.

**Часам перапоўненыя не толькі аўтобусы, але і месцы на прыпынках.**

КРАЯЗНАЎСТВА

## Вілейскія бібліятэкары заклікаюць кінуць мышку і ўзяць кніжку

**ВІЛЕЙКА. Раённая цэнтральная бібліятэка аб’явіла конкурс “Кінь мышку! Вазьмі кніжку!”.**

– На конкурс прымаюцца відэаролікі, анімацыйныя праекты, мультымедыйныя прэзентацыі, праекты кніжных выстаў, рэкламныя стэндаў, плакатаў, малюнкаў, – паведаміла загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу **Ганна Герко**. – Удзельнікамі конкурсу могуць стаць дарослыя і дзеці.

Працы павінны адлюстроўваць тэму конкурсу і раскрываць ролю кнігі, чытання, бібліятэкі ў жыцці чалавека і грамадства.

Пераможцаў вызначаць у трох намінацыях: “лепшы матэрыял, выкананы на электронных носьбітах”, “лепшая рэкламная прадукцыя, выкананая дзецьмі” і “лепшы выяўленчы дакумент”.

Матэрыялы можна падаваць да 15 жніўня на адрас: *222417 г. Вілейка, вул. Савецкая, 25, e-mail: obm-vil@yandex.ru.*

**Аддзел інфармацыі.**

## Фэст экскурсаводаў: Ілья, Маладзечна, Астравец

**Сёлета ў нашым рэгіёне адбудзецца чатыры сустрэчы, прымеркаваныя да Міжнароднага дня помнікаў і мясцінаў.**

У пятым беларускім фэсце экскурсаводаў прымуць удзел Астравец, Маладзечна і вілейская Ілья.

Фэст экскурсаводаў – гэта шэраг бясплатных экскурсій, якія правядуць спецыялісты і аматары па небанальных мясцінах і тэмах. Ідэя фэсту заключаецца ў тым, каб пазнаёміць жыхароў раёнаў і нават канкрэтных вуліц з тымі помнікамі, побач з якімі яны жывуць і ходзяць кожны дзень, але няшмат пра іх ведаюць.

**Паводле прэс-рэліза фэсту экскурсаводаў.**

| Месца | Назва экскурсіі | Час і месца збору | Экскурсавод |
|---|---|---|---|
| Ілья, Вілейскі раён | Вілейшчына літаратурная | 20 красавіка, 11.00. Ільянская сярэдняя школа | Супрацоўнікі музея |
| Астравец | Гісторыя Астраўца | 21 красавіка, 11.00. Помнік Леніну | Ірына Чаславаўна Казак |
| Маладзечна | “Архітэктурная спадчына Другой Рэчы Паспалітай у Маладзечне” | 20 красавіка, 14.00. Каля драмтэатра | Уладзімір Садоўскі |
| | Гісторыя і сучаснасць Маладзечна (экскурсія для дзяцей 6-8 гадоў) | 20 красавіка, 11.30. Цэнтральная плошча | Жанна Віталеўна Дудчанка |

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | | 5 | | | 4 | | 9 |
| | | 3 | | 7 | | | 6 | |
| 9 | 8 | | | | | | | 1 |
| 1 | | | | | 8 | | 4 | |
| | | | 1 | 9 | 5 | | | |
| | 5 | | 2 | | | | | 8 |
| 6 | | | | | | | 9 | 7 |
| | 4 | | | 1 | | 6 | | |
| 8 | | 9 | | | 3 | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Біяграфічная драма **“Легенда №17”** (Расія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 24 красавіка – у 18.30, 21.30
20 красавіка – у 13.00, 18.30, 21.30
21 красавіка – у 15.30, 18.30, 21.30
22, 23 красавіка – у 21.00
25 красавіка – 16.00, 21.30
Кошт білета – 20 000 рублёў (дзённы), 30 000 рублёў (вячэрні).

Фантастычныя прыгоды **“Джэк – забаёўнік веліканаў”** 3D (ЗША, 2013 год, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 20, 24 красавіка – у 16.00
21 красавіка – у 13.00
22, 23 красавіка – у 18.30
25 красавіка – 19.00
Кошт білета –35 000 рублёў (дзённы), 40 000 рублёў (вячэрні).

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

**“Звяркі-дабракі”** (анімацыя, Расія, 2012, для дзяцей дашкольнага ўзросту)
20 красавіка – у 13.30, 15.00
21 красавіка – у 13.30, 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Камедыя, меладрама **“Каханне і іншыя абставіны”** (ЗША, 2009, для гледачоў, старэйшых за 16 год)
19 красавіка – у 17.00, 19.00, 21.00
20, 21, 24 красавіка – у 19.00, 21.00
22 красавіка – у 21.30
23 красавіка – у 19.30, 21.30
25 красавіка – у 18.30, 21.00
Кошт білета –25 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**“Залатая табакерка”** (жартоўная казка)
21 красавіка – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП (19-25 КРАСАВІКА) )


**Авен.** У вас ёсць усе шансы, каб умацаваць матэрыяльнае становішча і дабіцца прызнання сваіх заслуг.


**Цялец.** Вы наўрад ці зможаце кіраваць сваім жыццём. Ваш звычайны распарадак парушыць ці надвор’е, ці іншыя фактары. Вы не ў стане нешта змяніць. Паспрабуйце прыстасавацца да нязвыклага парадку рэчаў.


**Блізняты.** Пазбягайце спажыванне алкаголю і іншых узбуджальных сродкаў, бо ўсё гэта негатыўна адаб’ецца і на вашым здароўі, і на паводзінах.


**Рак.** Вырашайце дробныя праблемы без дапамогі аптэчных прэпаратаў. Больш гуляйце на свежым паветры, захоўвайце рэжым дня – і вы адразу ўбачыце, як спрыяльна гэта ўплывае на ваш арганізм.


**Леў.** Вас чакаюць і радасці, і надзеі, і расчараванні, і горыч страт. Усё гэта – розныя праявы таго, што называецца “паўнатой жыцця”; да канца наступнага тыдня вы абавязкова адчуеце, што пражылі яго недарэмна.


**Дзева.** Падыміце галаву ад сумных папер, інакш вы рызыкуеце прапусціць цікавую прапанову, якая абяцае вам новую крыніцу даходу.


**Шалі.** Не драматызуйце падзей. Паглыбленасць у свае праблемы, якія ўва многім надуманыя, не дазваляе вам адэкватна рэагаваць на тое, што адбываецца.


**Скарпіён.** Натхненне, выклікане іншымі людзьмі, падштурхне вас да сумесных дзеянняў, тым больш, што дабівацца пастаўленых мэтаў аднаму нашмат цяжэй, чым разам з партнёрамі.


**Стралец.** Калі вы заўважылі, што надта часта канфліктуеце са сваімі блізкімі, то варта задумацца пра тое, ці правільна вы паступаеце, паглядзіце на сябе збоку, і вам стане многае зразумелым.


**Казярог.** Гэты перыяд – час бясстраснай ацэнкі вашых уласных заслуг, час ганарыцца сабой і, пры неабходнасці, развіваць і паляпшаць свой імідж і самаацэнку.


**Вадалей.** Добра, што сумныя думкі надоўга не затрымліваюцца, ды і добрыя весткі дапамагаюць прагнаць іх.


**Рыбы.** Звярніце ўвагу на знакі, якія пасылае вам лёс. Не ігнаруйце – ні папярэджанне аб небяспецы, ні намёкі на спрыяльны ход падзей.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета



## НАДВОР'Е

**20 красавіка, субота**

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +16 | 743 | ↗ 4 | +9 / +12 | 746 | ↘ 4 | +3 / +8 | 750 | ↓ 7 | +0 / +10 | 747 | ↙ 6 |
| Вільня | +8 / +12 | 751 | ↖ 2 | +7 / +8 | 755 | → 3 | -1 / +7 | 760 | ↙ 7 | 0 / +9 | 756 | ← 5 |

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +10 / +9 | 751 | → 3 |
| Гродна | +7 / +7 | 752 | → 1 |
| Мінск | +9 / +12 | 746 | ↘ 4 |
| Магілёў | +9 / +11 | 751 | ↓ 5 |
| Брэст | +9 / +11 | 755 | ↓ 3 |
| Гомель | +8 / +19 | 755 | → 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.13
Захад 20.12
Даўжыня дня 13.59

Усход 7.29
Захад 23.49
Квадра 2

## ПРЫКМЕТЫ

- Не зямля родзіць, а год.
- "Анціп (24 красавіка) – ваду распусціў. Калі на Анціпа няма паводкі – лета будзе дрэннае.
- Ні халадней за сакавік, ні цяплей за май красавік не бывае.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы рыхтуеце сваю знешнасць да лета?

**Дар'я Назаранка, у дэкрэтным адпачынку:**

– Ніяк асабліва не рыхтуюся. Цяпер вясна, а гэта час, калі можна, нарэшце, выйсці і пашпацыраваць з дзіцем на вуліцы. У першую чаргу думаю аб тым, каб набыць летняе адзенне для ўсёй сям'і. А ўжо пасля – пра сваю знешнасць.

**Алена Гіруць, раскройшчыца:**

– Я стараюся цягам усяго года трымаць сябе ў форме, каб асабліва не рыхтавацца да лета. У салярыі ніколі не хадзіла, а вось да цырульніка – абавязкова, і зімой, і летам.

**Данута Кучына, студэнтка:**

– Як толькі пацяплела, я пачала бегаць раніцай, каб мець больш спартыўную форму да лета. Сонца хутка пачне сушыць валасы, таму думаю пачаць рабіць спецыяльныя маскі. А ў харчаванне дадаю больш гароднiны, бо ўжо сезон: вось і цяпер іду на рынак па гародніну.

**Людміла Жураўская, пенсіянерка:**

– Я чакала гэту вясну, каб хутчэй выйсці на вуліцу ды папрацаваць на агародзе. Вось і ўсе мае вітаміны будуць разам з фізічнай нагрузкай. Але цяпер крыху прыхварэла. Горача на вуліцы, распрануцца хочацца, а нельга.

**Валянціна Гардзей, выкладчыца:**

– Рыхтуюся псіхалагічна: радуюся першаму праменьчыку і сонейку. Чытаю спецыяльную літаратуру, напрыклад, "Сацыяльную псіхалогію" Дэвіда Майерса. Размаўляю з пазітыўнымі людзьмі, якія мяне настройваюць на вясновую хвалю. І мне сапраўды вельмі лёгка ўспрымаць вясну.

**Марына Кукель, медсястра:**

– Вітаміны п'ю, хаджу ў фітнес-клуб ды сяджу на дыеце. У прынцыпе, так цэлы год праходзіць, але бліжэй да лета ўсё раблю яшчэ больш інтэнсіўна.

**Вольга Каляда, памочніца выхавальніцы:**

– Асабліва не рыхтуюся. Вітамінамі крыху падмацоўваю свой арганізм: гароднінай і садавінай. Адчуваю, што арганізм пачынае абуджацца пасля зімы.

**Падрыхтавалі Аляксандра ПАРАХНЯ і Настасся РОЎДА.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Як палепшыць стан экалогіі на ўзроўні сваёй сям'і? Для гэтага не трэба глабальных перамен. Пачаць можна з дробязяў, сцвярджаюць эколагі. Чытайце топ-5 экалагічных парадаў на кожны дзень у наступным нумары.**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

# Галасуюць за назву гасцініцы

**МЯДЗЕЛ. У раёне становіцца модным выбіраць назву для ўстаноў з дапамогай жыхароў.**

Адразу выбіралі назву для новай піцэрыі, а цяпер – для гасцініцы, якая будуецца ў райцэнтры.

Прагаласаваць за лепшую назву можна на сайце myadel.minsk-region.by. А можна адправіць свой варыянт на электронную скрыню ideologm@mail.ru альбо паведаміць па нумары **8(01797) 55-1-05.**

**Аддзел інфармацыі.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АШМЯНАЎ

Фота Юрася ГОРЛІЦЫ.

Ашмяны, вул. Барунская. Мост праз Ашмянку.



Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 16 (938) 19.04.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 313. Падпісана ў друк у 10.00 18.04.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.